

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Аўторак, 21 снежня 1993 г.
№ 165 (19300) Цана 15 руб.


◆ *ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ*

## Што расце хутчэй: цэны або зарплата?

Мінімальная заработная плата павышаецца ў рэспубліцы ўжо не першы раз. Але што цікава — раней па прыняцце адпаведнай пастановы парламенту хапала не больш як дзесяць мінут, а 17 снежня дэбаты па гэтаму пытанню працягваліся каля гадзіны. Усё больш дэпутатаў пачынаюць разумець: проста павышэннем мінімальнай зарплаты жыццё людзей не палепшыш. Аб гэтым, абапіраючыся на лічбы, гаварыў народны дэпутат Сцяпан Пісарэвіч. Кожнае павелічэнне зарплаты тут жа цягнула за сабой шлейф у выглядзе нястрымнага росту цэн. Расце зарплата — растуць цэны, замкнуты круг, з якога, здавалася б, і выхаду няма.

Выйсце спрабавалі знайсці. Але, на першы погляд, незвычайнае. Былі прапановы наогул не павялічваць мінімальную зарплату, а выкарыстаць тыя грошы, што закладваюцца ў бюджэт для датацый на аплату кватэр, малака, хлеба... Сёння ж атрымліваецца парадокс — у бюджэт уводзіцца аднолькавая сума і для студэнта, і для пенсіянера, і для чыноўніка, і для рабочага, і для камерсанта-мільянера... І таму варта было б прыслухацца да думкі старшыні праўлення Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, які прапаноўваў індэксіраваць катэгорыі насельніцтва выбарачна. Інакш кажучы, каб дадатковыя грошы атрымлівалі толькі тыя, хто ў іх сапраўды мае патрэбу, а не ўсе без разбору.

Народны дэпутат Уладзімір Кулакоў згадзіўся з гэтай думкай і прапанаваў устанавіць кантроль за цэнамі на тыя тавары, што ўваходзяць у "спажывецкую карзіну". Дэпутат сказаў: "Мне могуць запярэчыць: мауляў, гэта не рыначная мера. Але, як я разумею, у нас сёння няма рыначнай эканомікі. Няма, перш за ўсё таму, што рынак — гэта канкурэнцыя. У нас жа большасць прадпрыемстваў — манапалісты, і яны беспакарана узвінчваюць цэны на сваю прадукцыю".

Многія дэпутаты прапаноўвалі адкласці на некалькі дзён разгляд гэтага пытання. Таму што рост зарплаты і цэн — гэта прамы шлях "украінізацыі" беларускай эканомікі. Потым да мікрафона падышоў кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч, які сказаў: "Я не адмаўляю неабходнасці комплекснага падыходу. Але для гэтага патрабуецца час, за некалькі дзён нічога не вырашыш. А калі мы не павялічым зарплату са студзеня, то насельніцтва проста не вытрымае. Давайце галасаваць".

Прапаноўвалася чатыры варыянты. Першы: увесці індэксацыю, за яго прагаласавала 119 дэпутатаў. Другі: згадзіцца з думкай прафсаюзаў устанавіць мінімальную зарплату ў памеры 35 тысяч рублёў з 1 снежня бягучага года, "за" — 75 галасоў. Трэці: прапанова Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях працы, цэн занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва ўвесці новы мінімум 35 тысяч з 1 студзеня, "за" — 130 галасоў. Апошні галасаваўся прапанова ўрада — 30 тысяч рублёў з новага года. "За" — 235 галасоў. Такім чынам, мінімальная зарплата ў Беларусі, пачынаючы з 1 студзеня будучага года, будзе 30 тысяч.

Пасля гэтага дэпутаты прадоўжылі абмеркаванне пытання аб стане эканомікі ў рэспубліцы і шляхах яе вываду з крызісу.

На дзённым пасяджэнні парламент разгледзеў адразу некалькі важнейшых пытанняў: "Аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1994 год", "Аб парадку фарміравання валютных фондаў у 1994 годзе", "Аб дзяржаўным бюджэце на 1994 год".

Як адзначыў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі на будучы год з'яўляюцца: абмежаванне сярэднямесячных тэмпаў інфляцыі 10 працэнтамі і давядзенне іх к канцу года да 1—3 працэнтаў у месяц, стабілізацыя і паступовае аднаўленне курса беларускага рубля адносна расійскага рубля і долара ЗША, стварэнне міжбанкаўскага рынку грашова-крэдытных рэсурсаў, пераадоленне разлікова-плацежнага крызісу і г.д.

Міністр фінансаў Сцяпан Янчук паведаміў, што ў будучым годзе дзяржаўны бюджэт павялічыцца ў 3,8 раза і складзе прыблізна 13 трыльёнаў 560 мільярдаў рублёў. Паколькі даход у сувязі са змяншэннем налогаў знізіцца на 900 мільярдаў рублёў, то ў наступным годзе зменшацца датацыі і будуць паэтапна адпускацца цэны на шэраг прадуктаў харчавання і медыкаментаў, што маюць цяпер дзяржаўныя датацыі.

Прадстаўляўшы праект Закона "Аб парадку фарміравання валютных фондаў у 1994 годзе", намеснік міністра фінансаў Міхалай Лісай падкрэсліў, што цяпер урадам прадугледжваецца зусім іншы механізм іх фарміравання. Ні адзін долар не будзе спаганяцца падатковым шляхам, а толькі праз яго продаж на біржы. Палову выручкі за экспарт маркуецца прадаваць на валютнай біржы, яшчэ 15 працэнтаў урад збіраецца купляць у прадпрыемстваў у выглядзе валютнай рэнты.

Сесія прадоўжыць работу ў аўторак, 21 снежня.

Белінфарм.

## Падзеі. Факты. Каментарыі



З 1 верасня г.г. у 28 сярэдняй школе горада Віцебска створаны і паспяхова працуюць класы з эканамічным ухілам. Класы набраны з вучняў розных школ горада. У праграме гэтых класаў, акрамя абавязковых агульнаадукацыйных прадметаў, выкладаюцца асновы рыначных адносін, асновы тэорыі менеджмента, камп'ютэрная тэхніка і сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, дзелавой англійскай мовы, псіхалогія і этыка, дзелавых зносін, культура размовы, асновы рэлігіязнаўства, гісторыя культуры Беларусі і нават бальныя і сучасныя танцы. З лекцыямі перад вучнямі выступаюць выкладчыкі і дацэнты не толькі віцебскіх ВНУ, але і універсітэтаў Гомеля і Мінска.

Гэтыя здымкі зроблены ў час КВЗ на эканамічныя тэмы, які прайшоў на днях у школе. Па заканчэнню вучні гэтых класаў атрымаюць разам з атэстатам сталасці і сертыфікат аб эканамічнай адукацыі.

Тэкст і фота Г.ЖУКАВА.

## "Дружба правяраецца ў бядзе"

— такімі словамі пачынаецца пісьмо міністра ўнутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ФРГ пана Герберта Шноара, адрасаванае Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.

Доктар Шноар адклікнуўся на асабістую просьбу кіраўніка беларускага парламента аказаць дапамогу ў пастаўках у Беларусь неабходных медыкаментаў. У Дзюсельдорфе знайшлі сродкі і набылі лякарствы на суму 400000 нямецкіх марак.

Намер прыняць удзел у акцыі па аказанню дапамогі Беларусі выказаў і федэральны міністр замежных спраў доктар Клаус Кінкель. Прадстаўнік федэральнага ўрада заявіў аб гатоўнасці накіраваць на імя Станіслава Шушкевіча медыкаменты на суму 300000 марак.

У сярэдзіне снежня чак аецца прыбыццё ў Мінск медыцынскага канвою з Германіі з грузам коштам у 1,7 мільёна марак. Аўтар пісьма выказвае ўпэўненасць, што з дапамогай лякарстваў з ФРГ у Беларусі будзе аблегчана сітуацыя з забеспячэннем медыкаментамі.

У сваім пісьме пан Шноар падкрэсліў, што разам з гуманітарнай дапамогай нашай рэспубліцы, урад федэральнай зямлі разглядае і прапанову аб магчымых інвестыцыях у Беларусь, для развіцця на яе тэрыторыі фармацэўтычнай вытворчасці.

Нямецкія калегі паведамілі, што пачалі перагаворы з акцыянерным таварыствам "Байер Леверкузен" аб развіцці інвестыцыйнага праекта гэтай фірмы ў Мінску. Не выключаецца магчымасць, што фінансавае забеспячэнне праекта будзе ажыццёўлена за кошт крэдыту Сусветнага банка.

Белінфарм.

◆ *КАНТАКТЫ*

## Палітыкі, вучыцеся!

Дуброўна. (Наш кар.). Добрыя даўнія сувязі ў дубровенцаў з працаўнікамі Краснінскага раёна Смаленскай вобласці. Развіваюцца кантакты па лініі культуры, эканомікі, адукацыі, іншых сфер. У мінулую нядзелю тут гасцявалі шахматысты і валейбалісты. Асабліва захапляюча праходзілі матчы на 64-клетачнай дошцы. Гаспадары на чале з першаразраднікамі старшынёй райсавета народных дэпутатаў Міхаілам Ляшчынскім і чэмпіёнам раёна інжынерам саўгаса імя Смірновага Уладзімірам Казловым былі намнога мацнейшымі. А вось у валейбалістак поспех на баку гасцей.

Сустрэчы праходзілі ў выключна сяброўскай, шчырай атмасферы. Як заўжды. Павучыцца б палітыкам у нізоў, як усталёўваць згоду і мір паміж народамі.

## Экспрэс-інфармацыя

*У Мінску адбыўся III з'езд Беларускай сялянскай партыі. Ён прыняў перадвыбарную партыйную платформу, абмеркаваў палітычнае становішча ў рэспубліцы і вызначыў свае адносіны да дзейнасці Вярхоўнага Савета. З'езд прыняў папраўкі да статута, праграмы, абраў кіруючыя органы.*

**Экстрасенс Анатоль Кашпіроўскі, які зараз жыве пад Нью-Йоркам, стаў членам Дзяржаўнай думы па спісу Жырыноўскага. Гэтая з'ява не стала навіной для самога экстрасенса, як ён сам заўважыў у гутарцы з карэспандэнтам. "Бо я ведаю ўзровень сваёй папулярнасці ў Расіі", — сказаў ён.**

*У калядные падарожжа па Прыдзвінню адправіліся Дзед Мароз і Снягурачка. Самымі першымі іх сустрэлі выхаванцы Сенненскай школы-інтэрната. Разам з навагоднімі персанажамі прыехалі і шэфы — работнікі гандлёвага дома "Віцязь" з абласнога цэнтра. Акрамя святочных падарункаў, традыцыйнага карагода пад ёлкай, даросылыя падарылі дзятве захапляючую паездку ў Віцебск і экскурсію ў цудоўны свет сучаснай тэлерадыёапаратуры.*

**Многія з японцаў, хто вывучае англійскую мову, любяць завучваць словы і выразы, знаходзячыся ў ванне. Але, як вядома, кнігі і вада ніяк не спалучаюцца. Адчуўшы патэнцыяльны гігантскі рынак, выдавецкая фірма "Кіогакуша" выпусціла ў продаж спецыяльныя слоўнікі англійскай мовы, якія выраблены не з паперы, а з поліпрапілену. А значыць, вады не баяцца. У планах выдавецтва — выпуск з поліпрапілену падручнікаў і іншых выданняў, якія карыстаюцца масавым попытам.**

*Як паведамляе часопіс "Брытыш медыкл джорнэл", вучоныя з Нотынгемскага ўніверсітэта прыйшлі да высновы, што аспірын і іншыя процізапаленчыя прэпараты могуць засцерагчы ад рака кішэчніка і страўніка, нават калі прымаць гэтыя лякарствы ў малых дозах. Яны зніжаюць верагоднасць утварэння паліпаў, якія часцей за ўсё і ператвараюцца ў ракавыя пухліны. Так што прыём аспірыну, калі верыць англійскім вучоным, можа ўдвая знізіць верагоднасць рызыкі нажыць рак. Праўда, у часопісе "Брытыш медыкл джорнэл" гавора ідзе пра амерыканскі аспірын.*

**У сацыялістычным В'етнаме 1993 год быў абвешчаны "годам барацьбы з карупцыяй і кантрабандай". У ходзе агульнанацыянальнай кампаніі за выкараненне гэтага сацыяльнага зла многія чыноўнікі папла цяліся сваім становішчам і работай. Сотні дзяржаўных служачых апынуліся за кратамі ці былі падвергнуты суровым дысцыплінарным спагнанням. Дарэчы, за хабарніцтва цяпер можна атрымаць і вышэйшую меру пакарання. Сёлетні год невыпадкова праходзіць у В'етнаме пад такім для сацыялістычнай краіны не зусім звычайным дэвізам. Пацяху тут кралі і бралі "на лапу" даўно. Але тады ўзнімаць гвалт не было патрэбы: у судах адкрыта разбіралася ў сярэднім да 10 выпадкаў хабарніцтва ў год. Па меры ж развіцця "сацыялістычнай рыначнай эканомікі" сталі расці і апетыты тых, ад каго ў сілу займаемага службовага становішча залежала атрыманне выгадных кантрактаў і прыбытку. У закрытую да нядаўняга часу краіну хлынуў замежны капітал. Як расткі бамбука пасля дажджу, усюды сталі ўзнікаць змешаныя прадпрыемствы. Заходнія бізнесмены ўклалі ў іх больш за 6 мільярдаў долараў.**

*У Маскве створана Расійская рэлігійна-дабрачынная абшчына па праблемах зняволеных і іх сем'яў. Узначаліў абшчыну былы зняволены Пётр Васільеў. А прытулак новае грамадскае фарміраванне знайшло ў рэдакцыі газеты "Замоскворечье".*

**Аздараўленчы эфект сонечнага прамення пакладзен у аснову новай тэхналогіі апрацоўкі малака. Распрацавана яна інжынерна-тэхнічнай фірмай "Мысль" у Новасібірску. Паток малака прапускаецца тонкім слоем цераз спецыяльную ўстаноўку, якая прасвечвае прадукт. Патагенныя мікраарганізмы гінуць, і малако можна захоўваць на працягу двух сутак, не апасаючыся скісання.**

*"Сям'я Раманавых не прэтэндуе на расійскі прастол, але яна прэтэндуе на правы дапамагчы Расіі", — сказаў пражываючы ў Даніі князь Дзмітрый Раманаў. Ён стаў старшынёй нядаўна заснаванага нашчадкамі імператарскай фамілії Фонду дапамогі Расіі. Перад гэтым князь пабываў у Кастраме. На пытанне, калі ён збіраецца зноў у Расію, князь адказаў: "Трэба крышку пачакаць, пакуль у фондзе збярэцца дастаткова грошай. Я паеду не як турыст, а па справе, з тым, каб выкарыстаць грошы перш за ўсё на дапамогу дзецям..."*

Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.



◆ СЯМ'Я — НЕ 7, А 17 «Я»

# СВЯТЛО Ў ІХНІХ ВОКНАХ

Міхаіл Мацвеевіч працягвае шурпатую, як тачыльны камень, руку, кажа:

— А вы малайцы, хвіля ў хвілю заявіліся. Паабяцалі: у пяць буду, сапраўды, роўна ў пяць сустракаю вас.

Я ў сям'і Прыгожых. У той самай сям'і, дзе 15 дзяцей. Якую апявалі на розныя лады ў так званы застойны час, захапляліся грамадзянскай мужнасцю яго, Міхаіла Мацвеевіча, і яе, Інесы Уладзіміраўны, якія, не зважаючы на бяссонныя ночы і сумятлівыя дні, заставаліся, як і калісь, поўнымі сіл, жыццярадаснымі. Яны і цяпер, калі рыначная зашморга ўсё тужэй зацягваецца на шыі мнагадзетнай сям'і, прымушае зводзіць канцы з канцамі, не губляюць надзеі на лепшае.

— А вы як думалі? — Інеса Уладзіміраўна выцірае насовачкай запацелае шкельца акуляраў. — Без спадзявання ж як без рук, як птушка без крылаў. Муж во занядужаў, я не вельмі добра пачуваю сябе. А хварэць нельга, толькі гэтага нам не хапала.

— Правільна кажаш, вельмі правільна, — Міхаіл Мацвеевіч падняўся з канапы, як на пальчыках наблізіўся ўшчыльную да жонкі, з артыстычнай акуратнасцю паклаў на яе плячо руку. — Дагэтуль не разгубіліся, і цяпер не павінны раскіснуць.

Ды ні ў якім разе! Ніхто і ніколі яшчэ не чуў, каб Прыгожыя скардзіліся каму-небудзь на свой гаротны лёс. Ніякай панікі, ніякага адчаю. Нават тады, калі невыносна цяжка, калі гранічна напятая нітачка надзеі, здаецца, вось-вось абарвецца... Як гэта было ў 1986-м, калі хавалі Валодзю. "15 гадкоў споўнілася было сыночку, — скупая слязінка арашае твар Інесы Уладзіміраўны. — Мы толькі пераехалі ў гэты цуда-дом (дзякуй дзяржаве, яна тады клапацілася пра такіх, як мы), так Вова хацеў пажыць у ім. І на табе, на той свет у юным узросце пайшоў. Мусіць, такія і там патрэбныя?".

Адчуваю, як развярэджвае сэрца бацькоў балючы ўспамін. Хлопчык рос увесь у роднага дзядзьку Ігара Каныгіна (вядомы ў свеце барэц класічнага стылю. — Рэд.), надзелены быў, ад прыроды вялікай фізічнай сілай, зацята трэніраваўся. Праўда, наступіў момант, калі хацеў кінуць заняткі спортам. Але трэнер пераконваў як мог: нельга талент закопваць у зямлю, хай развіваецца. І на табе — смерць... у час трэніроўкі, уяўляеце?

Як балюча ні апякла непапраўная страта, але Прыгожыя перажылі гора. Зразумела, яно пакінула на сэрцы незагойны рубец, які час ад часу напамінае аб сабе.

Пакуль размаўляю з гаспадарамі, у гэтым неспакойным, шумным доме віруе жыццё. Бацька з маці мусяць адказваць на дзесяткі ўсемагчымых пытанняў! Малодшанькі Паўлік (ходзіць у другі клас) прасіў дазволу пагуляць на вуліцы. Іначка (на год старэйшая за Паўліка) хацела "толькі на 5 хвілінак да сяброўкі Аксанкі зазірнуць". Аня з Юляй збіраліся мыць бялізну. Дзіма шукаў і не знаходзіў нейкія асабістыя рэчы...

Усё было ў руху, усё смяялася, жыло.

Гэта колькі гадоў назад грахатала тэма гэтай сям'і ў перыядычным друку? Гадоў восем, напэўна. Колькі перамен за гэты час адбылося, на час стрыму няма. Ужо абзавяліся сваімі сем'ямі Андрэй, Віталік, Анжэла. Віталік з жонкай з'ехаў у Ізраіль, ёсць там горад Хайфа. "Жывуць не скардзяцца, як кажуць, душы паслухаючы, — Інеса Уладзіміраўна дастае з шуфлядкі пісьмо адтуль, з Блізкага Усходу. — Але ж не бачымся, вось у чым бяда, сумна, шкада. Пазваніць? Тарыфы шматтысячныя. Адкуль у нас такія грошы?".

І давай расказваць пра Андрэя, пра старэйшага. У дзяцінстве ён выдатна маляваў, а паступіў пасля школы ў ПТВ №96, гэта вучылішча радыёэлектронікі. І іншыя дзеці здольнасць да выяўленчага мастацтва мелі. Вось і стварыў Андрэй сваё малое прадпрыемства. Там і братам месца знайшлося. Хлопцы заняліся разьбой па дрэву, вазы робяць. Вырабы нарасхват, капейчына заводзіцца ў рабят. Сям'і ўжо, лічы, падмога адчувальная. А месяц назад МП закрылі — з нейкім плацяжом не разлічыўся своечасова. Пакуль суд ды справа, сямейны бюджэт апусцеў. Другі месяц не заплацілі кватплату, радзей сталі хадзіць у магазін.

Я адчуваў, што пытанне наконт ашчадкніжкі недарэчнае. Але ж задаў.

— Вы што, на поўным сур'ёзе? — Інеса Уладзіміраўна шчыра засмяялася. — Яе ў нас спрадвеку не было.

— Як гэта няма ашчадкніжкі, — Міхаіл Мацвеевіч не пагадзіўся з жонкай. — А помніш, як Андрэй вучыўся ў ПТВ, і майстар сказаў: трэба завесці ашчадкніжку. Першы і, зрэшты, апошні ўзнос паклалі на яе — 5 рублёў. Дык гэта тады было пяць. Дзесьці нараслі працэнты за гэты час.

— Давай паглядзім на тыя працэнты, — не то жартам, не то ўсур'ёз прапанавала Інеса Уладзіміраўна.

Аб многім гаварылі мы ў той вечар з гаспадарамі гэтага добрага, гасціннага дома. І аб цэнах, натуральна, якія растуць, не раўнуючы як на дражджах, ставяць сям'ю ў найцяжэйшае матэрыяльнае становішча. "А што заўтра будзе? — з трывогай вырвалася з грудзей Інесы Уладзіміраўны. — Каму там, "наверсе", узбрыло ў голаў праводзіць вар'яцкія эксперыменты над людзьмі. Ну невыносна ж зводзіць канцы з канцамі. Заказалі нядаўна абутак ва універмагу. "Калі ласка, купляйце," — звоняць. А ў нас фінансаў на той момант — шаром пакаці. Пра цукеркі дык даўным-даўно дзеці забыліся. Па тэлебачанні "Снікерс" з "Марсам" рэкламуюць, а мы толькі галавой ад роспачы, бяссілля хітаем. І ўсё. Ад гэтага не лягчэй".

Як не лягчэй ад таго, што губляецца вера ў дапамогу дзяржавы, грамадства. Раней неяк падтрымлівалі, дзякуй ім. Сёння іншыя часы. Сям'я, якой па праву ганарыліся, захапляліся, пастаўлена на мяжу выжывання, засталася адзін на адзін са сваімі шматлікімі бедамі.

Пальцаў на руках і нагах не хопіць, каб пералічыць усе праблемы, якія спавіваюць гаротнікаў. Няўцям гаспадарам, як адрамантаваць уазік-кашлюн, як прыватызаваць жыллё, як і дзе набыць участак пад агарод... Колькі іх, гэтых "як", вялікіх і малых, якія нельга адкладваць на заўтра і якія выклікаюць галаўны боль як у бацькоў так і дзяцей. Бацькі ўсё разумеюць — настабільнасць у палітыцы, адсутнасць дакладных арыенціраў у эканоміцы, карупцыя, якая, як ракавая пухліна, раз'ядае грамадскі арганізм. А як растлумачыць малым, што яны не бачаць цукерак даўно па той прычыне, што вытворчасць ласункаў, як і ўсякая іншая вытворчасць, згортваецца дарослымі дзядзькамі, што ў грамадстве, дзе хоча правіць баль чыстаган, нікому няма справы да тых, хто трапляе на бардзюр жабрацтва. Стрэмкай сядзіць у сэрцы гэтае неадчэпнае "як".

...Міхаіл Мацвеевіч праводзіць мяне на вуліцу. У густым вечаровым сутонні ярка свяціліся вокны бліжэйшых дамоў. А мне падалося, што найярчэйшае святло льецца адсюль, дзе свой, асаблівы свет, дзе сям'я не з сямі, а з семнаццаці "я" складаецца, дзе шырока раскрыты абдымкі любові да дзяцей. І дзе, як ні цяжка, а не разбураюць веру дзетак у тое, што цяжкасці не вечныя. Нездарма, відаць, Міхаіл Мацвеевіч згадаў у размове са мной словы Хрыста аб тым, што таму, хто нанясе шкоду веры маленькага дзіцяці, будзе лепш утапіцца ў моры з каменем на шыі. Мудрыя словы, нічога не скажаш.

М.ПРЫГОЖЫ.

г.Віцебск.

◆ У ПАРТЫЯХ І РУХАХ

## За абноўленыя Саветы

На справаздачна-выбарным сходзе камуністаў Чыгуначнага раёна Віцебска многія падкрэслівалі, што эканамічны крызіс балюча б'е па ўсіх. Цэны на ўсе без выключэння тавары і паслугі выйшлі з-пад кантролю дзяржавы, і, бачна, цяперашнім уладам спыніць іх рост не пад сілу.

Камуністы адзначылі, што выступаюць за захаванне Саветаў усіх узроўняў, але не цяперашніх, страціўшых давер народа, а аднаўленых, з самым шырокім прадстаўніцтвам працоўных. Толькі органы сапраўднага народаўладдзя змогуць спыніць злачыннае разбазарванне створанага працай былых пакаленняў прамысловага і сельскагаспадарчага патэнцыялу, забяспечыць людзям чалавечае жыццё, спакойную старасць.

Удзельнікі сходу прызналі неабходным узмацніць растлумачальную работу сярод моладзі і стварыць раённую камсамольскую арганізацыю.

Сакратаром Чыгуначнага раённага камітэта Партыі камуністаў Беларусі выбраны інжынер Віцебскага спецыяльнага канструктарскага бюро зубаапрацоўчых, шліфавальных і заточных станкоў А.А.Андрэеў.

Н.ПАДБЯРЭЗІН.

## ГІМНАЗІЯ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Савет Полацкай гімназіі звярнуўся праз газету "Полацкі веснік" з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе.

Пайшоў толькі другі навучальны год, як сярэдняя школа № 7 пераўтворана ў гімназію. Гэта не толькі па назве, але і па зместу адметная ад нашых агульнаадукацыйных школ, закліканых даваць абавязковую сярэднюю адукацыю, навучальная ўстанова. У ёй аддаецца большая ўвага гуманітарным дысцыплінам, у прыватнасці вывучэнню моў, найперш — дзяржаўнай, беларускай, а таксама эстэтычнаму, этычнаму выхаванню. Гімназія на працягу ўсяго навучання дае сваім гадаванцам большую нагрузку. Яна сарыентавана на індывідуальную работу з кожным вучнем, на паўнейшае развіццё яго здольнасцей. Сюды прымаюцца на вучобу па конкурсу. Трэба адзначыць, конкурс немалы.

Але, як цяпер высвятляецца, ужо на самым пачатку гімназія сутыкаецца з матэрыяльнымі цяжкасцямі. Няма сродкаў для набыцця спортінвентару, мэблі, музычных інструментаў для аркестра. Няма за што перарабіць сістэму цеплазабеспячэння ў прыбудове, дзе халаднавата.

Страціўшы надзею выпрасіць бюджэтных асігнаванняў на гэтыя патрэбы, савет гімназіі звярнуўся да малых прадпрыемстваў, акцыянерных таварыстваў, да камерсантаў з заклікам аказаць дапамогу. Няўжо не знойдуцца сярод іх сучасныя Савы Марозавы, Трацнякова, гатовыя ахвяраваць са сваіх даходаў для дзяцей, магчыма, і для сваіх жа нашчадкаў?

Г.КІРЫЛАЎ.

## ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

### Каб паветра было чыстым...

*Раней у нас усімі вострымі пытаннямі на месцах займаліся органы народнага кантролю і партыйныя камітэты. Сёння пад лозунгамі дэмакратыі ўсе кантралюючыя органы разбурылі. Таму мяне цікавіць такое пытанне: ці ёсць якія заканадаўчыя акты на ўзроўні нашых мясцовых улад за парушэнні? І ў прыватнасці, мяне цікавіць праблема аховы навакольнага асяроддзя.*

Э.ПУГАЧОЎ.

г.Наваполацк.

Паважаны Эдуард Сяргеевіч, паведамляем вам, што такія акты ёсць. Па-першае, гэта рашэнне абласнога Савета народных дэпутатаў № 183 "Аб устанаўленні адміністрацыйнай адказнасці і павелічэнні памераў штрафаў за некаторыя адміністрацыйныя правапарушэнні". Дарэчы, нядаўна ў яго былі ўнесены пэўныя змяненні і дапаўненні. Дакумент гэты даволі аб'ёмны і тычыцца ўсіх аспектаў нашага жыцця. А больш канкрэтна з ім можна пазнаёміцца ў любым выканкоме гарадскога ці раённага Саветаў народных дэпутатаў. Што ж датычыць аховы навакольнага асяроддзя, то там ёсць спецыяльны артыкул аб шкодных выкідах у атмасферу з перавышэннем нарматываў. Згодна з ім, штраф на службовых асоб у памеры да пяці мінімальных зарплат можа быць ускладзены за:

— перавышэнне нарматываў гранічна дапушчальных выкідаў ці часова ўзгодненых, што забруджваюць атмасферу;

— перавышэнне нарматываў гранічна дапушчальных шкодных фізічных уздзеянняў на атмасфернае паветра;

— выкід рэчываў, што забруджваюць атмасферу, без дазволу спецыяльна ўпаўнаважаных на тое дзяржаўных органаў;

— шкоднае фізічнае ўздзеянне на атмасфернае паветра без дазволу спецыяльна ўпаўнаважаных на тое дзяржаўных органаў у выпадках, калі атрыманне такога дазволу неабходна ў адпаведнасці з заканадаўствам.

А эксплуатацыя аўтатранспартных і іншых сродкаў і ўстановак, у выкідах якіх утрымліваюцца шкодныя рэчывы, а таксама ўзровень шуму пры іх рабоце перавышае ўстаноўленыя нарматывы, караецца штрафам да трох мінімальных зарплат.

Увод у эксплуатацыю новых і рэканструяваных прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў, якія не адпавядаюць патрабаванням па ахове атмасфернага паветра, згода з рашэннем абласнога Савета народных дэпутатаў № 183, вызначаецца спагнаннем штрафу на грамадзян — да пяцікратнага, а на службовых асоб — да дзесяцікратнага памеру мінімальнай заработнай платы. Ёсць у гэтым рашэнні і спецыяльны артыкул аб парушэнні правіл эксплуатацыі, а таксама невыкарыстанні абсталявання для ачысткі выкідаў у атмасферу. За адхіленні ад гэтых правіл прадугледжаны таксама штраф у тых жа памерах, што і ў першым выпадку.

Гэта тычыцца і парушэння правіл складзіравання прамысловых і бытавых адходаў, патрабаванняў па ахове атмасфернага паветра пры спальванні такіх адходаў.

Дарэчы, караецца штрафам і выпуск у эксплуатацыю аўтамабіляў, самалётаў, суднаў і іншых перасоўных сродкаў і ўстановак, у якіх утрыманне забруджваючых рэчываў у выкідах, а таксама ўзровень шуму, які атрымліваецца пры іх рабоце, перавышае ўстаноўленыя нарматывы. За такое парушэнне са службовых асоб можа быць спагнаны штраф да пяці мінімальных зарплат.

◆ ЗВАРОТ ДА ДЭПУТАТАЎ

## «Мы вас выбіралі. Дапамажыце!»

У Віцебску створаны савет беспрацоўных. Нядаўна адбыўся сход, які прыняў зварот да народных дэпутатаў усіх узроўняў. У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што абяцанні, якія шчодра даваліся кандыдатамі, аказаліся пад вялікім сумненнем. Многія з тых, хто аддаў свае галасы за выбранне дэпутатаў, не па сваёй віне страцілі рабочыя месцы, вымушаны марнець. Гэта трагедыя.

У звароце прапаноўваецца:

патрабаваць ад кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў скасаваць дагаворы з асобамі пенсіённага ўзросту, якія атрымліваюць пенсію і зарплату, і такім чынам пакласці канец штучна створанаму беспрацоўю. (Дарэчы, цяпер у Віцебску на 5 тысяч беспрацоўных 17 тысяч працуючых пенсіянераў);

адшукаць сродкі для датавання дабрачынных пунктаў грамадскага харчавання для беспрацоўных і маламаёмных (з разліку 100 пасадачных месц на 100 тысяч жыхароў горада);

засцерагчы людзей ад магчымага ўзнікнення тыфу і кароcты, бо цэны ў цырульнях і лазнях для беспрацоўных сталі недаступнымі. У кожным раёне горада варта адкрыць па адной цырульні з дзяшовымі паслугамі і аплаціць з бюджэту памывачныя месцы ў лазнях для беспрацоўных мужчын і жанчын;

устанавіць (1 — 2 працэнты ад колькасці працуючых) браніраванне рабочых месц для асоб, пазбаўленых магчымасці працаваць больш года;

кожны беспрацоўны павінен мець дазвол на набыццё тавараў па зніжаных цэнах, як для малазабяспечаных;

пераглядзець размер дапамогі па беспрацоўю сем'ям, у якіх абодва кармільцы атрымалі статус беспрацоўнага.

## Не гандлем адзіным...

Абнадзейвае, што ў нашай вобласці пачалі з'яўляцца фірмы, якія займаюцца не толькі купляй-продажам. Так, нядаўна, напрыклад, выканком Шумілінскага раённага Савета народных дэпутатаў зарэгістраваў таварыства з абмежаванай адказнасцю — беларуска-расійскае прадпрыемства "Металіст", створанае на аснове долевай уласнасці.

Таварыства вядзе будаўнічамантажныя і рамонтныя работы, займаецца металаапрацоўкай, вытворчасцю будматэрыялаў і канструкцый. А сваю прадукцыю "Металіст" рэалізуе і прадпрыемствам, і прыватным асобам.

(Наш кар.).

◆ *У КНІГУ "ПАМЯЦЬ"*

# ПОДЗВІГУ — 50 ГАДОЎ

Наша газета паведамляла ўжо аб тым, што пры Пестуніцкім сельскім доме культуры Віцебскага раёна працуе клуб "Пошук". Яго кіраўнік Б.Я.Леганькоў напісаў нам, што тут ствараецца і музей. Члены клуба праводзяць вялікую пошукавую работу. Звязаліся з гарваенкаматам Вялікага Усцюга Валагодскай вобласці, папрасілі прысладаць дакументы, звязаныя з подзвігам Анатоля Яфімавіча Углоўскага, які ён здзейсніў на віцебскай зямлі.

Нядаўна ў Пестуніцу прыйшоў пакет з радзімы героя, а ў ім — копія ўзнагароднага ліста з апісаннем баявога подзвігу салдата. Барыс Якаўлевіч лічыць, што азнаёміцца з яго зместам будзе карысна і чытачам "Віцебскага рабочага".

Ніжэй мы друкуем узнагародны ліст героя і спадзяёмся, што ім зацікавіцца і рабочая група кнігі "Памяць".

УЗНАГАРОДНЫ Л І СТ

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку: Углоўскі Анатоль Яфімавіч.

2. Званне: чырвонаармеец. 3. Пасада, часць: радавы 429-га знішчальнага процітанкавага дывізіёна.

Прадстаўляецца да звання Героя Савецкага Саюза.

4. Год нараджэння: 1923. 5. Нацыянальнасць: рускі. 6. Партыйнасць: чл. ВЛКСМ.

7. Удзел у баявых дзеяннях па абароне СССР і ў Айчыннай вайне (дзе, калі): з пачатку 1942 г. Удзельнік баёў за Вялікія Лукі і Духаўшчыну.

8. Ці меў раненні і кантузіі ў Айчыннай вайне: загінуў 20.12.1943 г.

9. З якога часу ва Узброеных Сілах: з 1942 г.

10. Якім РВК прызваны

11. Чым раней узнагароджваўся (за якія адзнакі)

12. Пастаянны дамашні адрас прадстаўляемага да ўзнагароды і адрас яго сям'і: Валагодская вобласць, Вяліка-Усцюжскі раён, вёска Лужавіца.

**Канкрэтнае выкладанне асабістага баявога подзвігу або заслуг:**

20 снежня 1943 года на шасэ Сураж — Віцебск ішлі жорсткія баі. Асабліва цяжкія баі праходзілі ў раёне дзеянняў 429-га ЗПТД. Варожыя танкі, у тым ліку і тыпу "тыгр", прарваўшыся праз баявыя парадкі пяхоты 938-га сп 306-й сд, стварылі крытычнае становішча для нашай пяхоты і ставілі пад пагрозу зрыву выкананне баявой задачы. Страта некалькіх танкаў праціўнікам не спыніла ворага, танкі працягвалі рухацца.

Галаўны танк ворага набліжаўся да пазіцыі разліку бранябойшчыка Углоўскага, разлік не разгубіўся, адкрыў агонь, але варожы танк імкліва рушыў уперад. І калі танк знаходзіўся ў 30 метрах ад разліку, у адзінаборства са сталёвай пачварай уступіў гвардзеец Анатоль Углоўскі. Ён схапіў дзве процітанкавыя гранаты, узняўся насустрач фашысцкаму танку і са словамі "Не пройдзеш, фашысцкі гад!" першую гранату кінуў пад днішча танка, а другую — пад гусеніцу. Танк быў падбіты, але смерцю героя загінуў і сам Углоўскі. Астатнія танкі, бачачы гібель галаўнога, адмовіліся ад далейшай атакі і павярнулі назад.

Гераічным подзвігам радавы Углоўскі сарваў танкавую атаку праціўніка і забяспечыў пяхоце пераход у паспяховае наступленне.

Сваім подзвігам радавы Углоўскі пакінуў аб сабе нязгасную памяць, якая дазваляе паставіць яго ў рады бессмяротных герояў Айчыннай вайны.

За праяўленую мужнасць і геройства ў баях за Радзіму Ваенны савет фронту хадайнічае перад Вамі аб прысваенні Углоўскаму пасмяротна звання Героя Савецкага Саюза, а 429-му знішчальнаму процітанкаваму дывізіёну просім прысвоіць імя гвардыі радавога Анатоля Яфімавіча Углоўскага з залічэннем яго навечна ў спісы часці.

п.п. Камвойскамі 1 Прыб.фр.
гв.генерал арміі БАГРАМЯН
Член Ваенсавета 1 Прыб.фр.
генерал-лейтэнант ЛЯОНАЎ
12 студзеня 1944 г.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 4 чэрвеня 1944 г. Углоўскаму Анатолю Яфімавічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля "Залатая Зорка".

Пахаваны салдат у брацкай магіле савецкіх воінаў у вёсцы Вымна Віцебскага раёна. Беларусы свята ўшаноўваюць памяць рускага брата. Імем героя названы саўгас у Віцебскім раёне, на 21-м кіламетры шасэ Віцебск — Сураж яму ўстаноўлен помнік.

Подзвігу — 50 гадоў. Ён не забыты ўдзячнымі нашчадкамі.

Т.КУЗЬМІЧ.

# Боль наша неугасима, память — священна

## Уроженцы г. Витебска, а также воины, призванные Витебским горвоенкоматом, защитники и освободители города, не вернувшиеся с полей сражений в годы Великой Отечественной войны:

### 1944 год

**Круглый Хаим Абрамович**, род. в 1913 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 22 июня 1941 г. Пропал без вести в ноябре.

**Круменг Александр Александрович**, род. в 1917 г. в Невеле, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Умер от ран в августе.

**Крупкин Сендер Меерович**, род. в 1904 г. в Витебске, рядовой, призван Сталинским РВК. Пропал без вести в мае.

**Крупнов Михаил Васильевич**, род. в 1905 г. в г.Судогде Шаповской обл., призван Витебским ГВК. Погиб в бою 16 октября в Литовской ССР. Похоронен в д.Шенкино Литовской ССР.

**Крутиленко Георгий Яковлевич**, род. в Витебске (год рождения неизвестен), рядовой. Погиб в бою в Калининской обл. Похоронен в д.Глыжино Пушкиногорского р-на.

**Круторожкин Григорий Харитонович**, род. в 1906 г. в Витебске, 'рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в июле.

**Круторожкин Иван Иванович**, род. в 1906 г. в д.Мурожница Шумилинского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК 24 июня 1941 г. Пропал без вести в июле.

**Крученков Яков Иванович**, род. в 1919 г. в д.Осиновка Богушевского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 1 октября.

**Крылов Савелий Кириллович**, род. в м.Сенно (год рождения неизвестен), рядовой, призван Витебским ГВК в 1941 г. Пропал без вести в декабре.

**Крюков Василий Иванович**, род. в 1906 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 25 февраля. Похоронен в д.Устье Чаусского р-на Могилевской обл.

**Ксендзов Анатолий Иванович**, род. в 1911 г. в Витебске, ст.сержант, призван Витебским ГВК. Умер от ран 20 октября. Похоронен в д.Поротиново Каунасского уезда.

**Ксензов Яков Гаврилович**, род. в 1907 г. в д.Тишково Витебского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести в июне.

**Кудевич Артем Андреевич**, род. в 1908 г. в с.Стык Глоданского с/с Лиозненского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК в июле 1941 г. Пропал без вести в июле.

**Кудрявцев Савелий Ермолаевич**, род. в 1906 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК 5 августа. Погиб в бою 3 августа. Похоронен в м.Бэнэ Латвийской ССР.

**Кудрявцев Степан Федорович**, род. в 1902 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в июле 1941 г. Пропал без вести в октябре.

**Кудряшев Алексей Давыдович**, род. в 1908 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести.

**Куземкин Федор Самуилович**, род. в 1902 г. в г.Витебске, рядовой, призван Витебским РВК. Погиб в бою 30 августа. Похоронен в Сувалковской обл.

**Кузнецов Александр Спиридонович**, род. в 1917 г. в д.Нижне-Федорово Нелидовского р-на Великолукской обл., мл.лейтенант, призван Витебским ГВК в 1938 г. Погиб в бою 27 апреля.

**Кузнецов Бениамин Борисович**, род. в 1906 г. в Невеле, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в августе.

**Кузнецов Михаил Иванович**, род. в Калининской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в сентябре.

**Кузнецов Сергей Титович**, род. в 1923 г. в Витебске, рядовой, призван Смоленским РВК. Погиб в бою 1 февраля. Похоронен в д.Рожново Н.-Сокольнического р-на Калининской обл.

**Кузнецов Степан Федорович**, род. в 1911 г. в г.Карачаев Орловской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в октябре.

**Кузнечиков Георгий Иванович**, род. в 1922 г. в Витебске (ул.Киевская,33), сержант, призван Витебским РВК. Умер от ран 4 августа. Похоронен в с.Кшивец Гайновского р-на Брестской обл.

**Кузьмин Александр Емельянович**, род. в 1922 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в апреле.

**Кузьмин Григорий Павлович**, род. в 1916 г. в Витебске, капитан, призван Витебским РВК. Пропал без вести 9 октября.

**Кузьмин Иван Демьянович**, род. в Витебске (год рождения неизвестен), рядовой, призван Витебским РВК. Погиб в бою 6 сентября. Похоронен в м.Бэнэ Латвийской ССР.

**Кузьмин Кирилл Михайлович**, род. в 1904 г. (место рождения неизвестно), лейтенант, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 17 апреля.

**Кузьминов Анатолий Константинович**, род. в 1899 г. в Витебске, рядовой, призван Куйбышевским РВК г.Ленинграда. Пропал без вести в сентябре.

**Кузьминов Евстафий Михайлович**, род. в 1904 г. в Витебской обл., рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 25 февраля. Похоронен в д.Пружиница Домановского р-на Полесской обл.

**Кузякин Роман Иванович**, род. в 1905 г. в Тугылымском р-не Челябинской обл., рядовой, призван Витебским ГВК 25 июля 1941 г. Пропал без вести в октябре.

**Кукин Георгий Семенович**, род. в 1907 г. в Витебске, рядовой, призван Горностаевским РВК. Пропал без вести в мае.

**Кулачков Иван Федорович**, род. в 1903 г. в Витебске, рядовой. Пропал без вести 17 марта.

**Кулачков Николай Егорович**, род. в 1905 г. в д.Букштыны Селютского с/с Витебского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести.

**Кулачков Степан Федорович**, род. в 1905 г. в д.Каматево Елагинского с/с Витебского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Погиб в бою 14 июля. Похоронен в д.Шлетюрешки Зарксанского р-на.

**Кулешов Арсентий Федорович**, род. в 1898 г. в д.Путилово Николаевского с/с Витебского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести в августе.

**Куликов Григорий Федорович**, род. в 1902 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в июне 1941 г. Пропал без вести в октябре.

**Куликов Иван Исаакович**, род. в 1918 г. в д.Плешки Суражского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК. Пропал без вести в августе.

**Кульбицкий Борис Иосифович**, род. з 1920 г. в Витебске, рядовой, призван Витебским ГВК в 1940 г. Пропал без вести в сентябре.

**Кумпан Степан Митрофанович**, род. в Полтаве (год рождения неизвестен), ефрейтор, призван Витебским ГВК. Пропал без вести 20 января.

**Кундель Нохум Яковлевич**, род. в 1891 г. в г.п.Лиозно, рядовой, призван Витебским ГВК 25 июня 1941 г. Пропал без вести в сентябре.

**Кундер Дмитрий Кириллович**, род. в 1914 г. в г.п.Богушевск, рядовой, призван Витебским ГВК 22 июня 1941 г. Пропал без вести в августе.

**Кунцевич Виктор Лукьянович**, род. в 1917 г. в Витебске (ул. 2-я Заводская,11), старшина. Пропал без вести 20 марта в р-не г.Кривой Рог.

**Кунцевич Иосиф Антонович**, род. в 1915 г. в д.Кунцевичи Ветринского р-на, рядовой, призван Витебским ГВК 23 июня 1941 г. Пропал без вести в сентябре.

**Кунцевич Михаил Никанорович**, род. в 1910 г. в с. Скрыдлево Витебской обл., ст.сержант, призван Витебским ГВК в 1941 г. Пропал без вести в августе.

---

Працяг. Пачатак у нумарах за 11, 17, 18, 24, 25, 31 жніўня, 1, 7, 8, 14, 15, 21, 22, 29 верасня, 5, 6, 12, 13, 19, 20, 26, 27 кастрычніка, 4, 10, 16, 23, 30 лістапада, 7, 14 15 снежня.

---

**Усім, хто жадае дапамагчы ў выданні віцебскай гарадской кнігі "Памяць", паведамляем: грошы можна пералічыць на рахунак № 000705701 у Віткамбанку.**




◆ *РЭЗАНАНС*

# За спінай дэпутатаў,

## або Нам не страшны шэры воўк

Паспяшаліся, вышэй сябе падскочылі ў нястрымным сваім імкненні адхапаць як мага больш народнага дабра кіраўнікі аршанскага гарадскога вытворча-камерцыйнага цэнтра "Мерком". Уявіўшы, што ім з іх апетытам дазволена ўсё, што толькі захочацца, яны тэрмінова, рашуча і самачынна аб'явілі сваёй прыватнай уласнасцю вялікі кавалак дзяржаўнага ляснога масіву ва ўрочышчы "Гадавічы". Для замацавання прысвоенага сабе права быць тут поўнаўладнымі гаспадарамі вырабілі і развесілі на дрэвах спецыяльныя шыльды з катэгарычным надпісам: "Прыватная тэрыторыя. Пабочным уваход забаронены".

Зусім натуральна, што агрэсіўную гэту хціўвасць жыхары навакольных вёсак і Оршы ўспрынялі крайне негатыўна. Аб чым і заяўлялі з абурэннем у час тэлефонных зваротаў у аршанскі карэспандэнцкі пункт "Віцебскага рабочага". Людзям не спатрэбілася асабліва шмат фантазіі, каб параўнаць падобных прыватнікаў-прыхватызатараў з памешчыкамі.

Неўзабаве на карэспандэнцкі пункт паступілі фотаздымкі, зробленыя ў зоне, забароненай "Меркомам" для наведання пабочнымі асобамі, — на "прыватнай тэрыторыі". 13 ліпеня г.г. гэтыя фотаздымкі ў суправаджэнні адпаведнага тэксту пад агульным загалоўкам "Асцярожна: злы сабака і ... памешчык" паявіліся на старонках нашай газеты. Публікацыю суправаджала рубрыка "Ну і ну", якой карэспандэнт выказаў сваю пазіцыю з нагоды прысваення, пераводу ў прыватную ўласнасць дзяржаўнага лесу і іншых угоддзяў, якія павінны выкарыстоўвацца для агульных патрэб насельніцтва.

Здзіўляцца сапраўды было чаму. Што, між іншым, праявілася і на сесіі раённага Савета, якая адбылася праз тры дні пасля выхаду газеты з названым матэрыялам. Адчувалася, што вестка аб паяўленні на Аршаншчыне прыватнага лесу застала народных дэпутатаў, а таксама работнікаў лясгаса знянацку, выклікала, мякка кажучы, поўнае недаўменне. Дэпутаты патрабавалі стварыць спецыяльную камісію, якая б разабралася ў сітуацыі, расказанай у абласной газеце, і на наступнай сесіі далажыла аб выніках праверкі. Што і было зроблена.

На чарговай сесіі, якая праходзіла 20 лістапада, камісія пазнаёміла народных выбраннікаў з падрыхтаванай ёю інфармацыяй. З яе вынікае, што здзелка з "Меркомам" ажыццяўлялася па-за спінай дэпутацкага корпуса раёна, без яго ведама і дазволу. Стала вядома, што "Мерком" 30 чэрвеня 1992 года пасля таго, як змог набыць у сваю ўласнасць будынкі былога піянерскага лагера "Васілёк", размешчанага ў тым жа ўрочышчы "Гадавічы", звярнуўся ў Аршанскі райвыканком з просьбай аб выдзяленні яму зямельнага ўчастка. 30 лістапада райвыканком, без уліку думкі раённага Савета, звярнуўся з хадайніцтвам у выканком абласнога Савета. Апошні 9 сакавіка 1993 года вынес рашэнне, згодна з якім зямельныя ўчасткі ў "Гадавічах" агульнай плошчай 9 гектараў (у тым ліку 3,4 гектара пад лесам першай групы, 0,5 — пад сенажаццю, 0,5 — пад дарогамі, 0,4 — пад вадаёмам, 4,2 гектара пад пабудовамі) перадаваліся ў пастаяннае карыстанне "Меркома".

Заўважым: у рашэнні аблвыканкома было агаворана, што "Мерком" "можа прыступіць да заняцця адводзімых участкаў пасля адмежавання іх у натуры і атрымання Дзяржаўнага акта на права карыстання зямлёй". "Мерком" жа, як аказалася, аднёсся да гэтага патрабавання з пагардай і насуперак яму паспяшаўся публічна абвясціць, што лес і іншыя ўгоддзі — яго прыватная ўласнасць, што ніхто не можа нават нагой сюды ступіць. На дрэвах паявіліся адпаведныя шыльды з грозным папярэджаннем, а паміж дрэвамі замільгала шустрая фігура грубага вартаўніка-палясоўшчыка са злым сабакам.

Што датычыць Дзяржаўнага акта, то яго ў "Меркома" ў то час і блізка не было. Не было і пазней: ні летам, калі "Віцебскі рабочы" выступіў з публікацыяй "Асцярожна: злы сабака і... памешчык", ні позняй восенню, калі сабралася яшчэ адна сесія раённага Савета. У інфармацыі, зробленай на гэтай сесіі, ёсць такія радкі: "Вывад: кіраўніцтва ГПКЦ "Мерком" не мела ніякага права карыстацца зямельным участкам да атрымання Дзяржаўнага акта, а тым больш ставіць агароджу, устанаўліваць забарончыя знакі пры ўездзе на тэрыторыю і іншыя дзеянні, аб якіх ішла гаворка ў вышэйназваным (у газеце "Віцебскі рабочы". — Г.К.) артыкуле".

Мяркомаўцы, імкнучыся падгрэбсці пад сябе і лес, і сенажаць, і вадаём, і ўсё астатняе, яўна пераблыталі сваё з дзяржаўным, не разабраліся ў паняццях "карыстанне" і "валоданне" зямлёй. Трэба было б ведаць розніцу паміж гэтымі словамі. Калі ж што-небудзь не даходзіць, не зразумела, варта пачытаць Закон Рэспублікі Беларусь "Аб праве ўласнасці на зямлю", прыняты 16 чэрвеня 1993 года.

Там, у артыкуле восьмым, чорным па белым напісана, што не падлягаюць перадачы ў прыватную ўласнасць ні землі ляснога фонду, ні землі воднага фонду, ні сенажаці, ні дарогі.

**Так што ў дзяржаўным лесе нам, як кажуць, не страшны шэры воўк. Сабака — тым больш. Нават калі яго нацкоўвае на нас новаспечаны прыхватызатар-памешчык ці закаранелы хапуга-спекулянт.**

**Г.КАРАЛЁЎ**

# Будуць свае вучоныя

У Віцебскім тэхналагічным інстытуце лёгкай прамысловасці створаны савет па абароне дысертацый на званне кандыдата тэхнічных навук. Сярод яго членаў, акрамя вядомых беларускіх вучоных, ёсць і прадстаўнікі дзвюх маскоўскіх акадэмій, а таксама Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Так што сёння мы ўжо можам з поўнай падставай называць гэтую вышэйшую навучальную ўстанову кузняй навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў нашай рэспубліцы.

**(Наш кар.).**

◆ ХУТКА НОВЫ ГОД

# Не забудзьце купіць ёлку

Набліжаецца Новы год — адно з самых жаданых у народзе свят. У кожным доме яго хочуць сустрэць ля святочна ўбранай ёлкі. Напярэдадні Новага года прадпрыемствы лясной гаспадаркі паставяць гарадам і раённым цэнтрам вобласці тысячы лясных прыгажунь. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць, пазваніўшы ў канкрэтны лясгас. Што датычыць г.Віцебска, то, як і ў мінулым годзе, наша аб'яднанне арганізуе продаж навагодніх ёлак на Полацкім і Смаленскім рынках. За 1-метровую ёлачку трэба будзе заплаціць 1500 рублёў, за 2-метровую — 2000 рублёў, а за 3-метровую — 2500 рублёў.

Гандаль пачынаецца з 23 снежня з 8 і да 15 гадзін.

Нарыхтоўка ёлак праводзіцца работнікамі лясной гаспадаркі на спецыяльных плантацыях, у парадку расчысткі трас, прасек і пры правядзенні высечкі догляду.

Непапраўную шкоду нашаму зялёнаму сябру наносяць тыя, хто самавольна высякае ёлачкі ў прыгарадных лясах, лесапаркавых зонах, ахоўных палосах.

Штогод у вобласці за самавольную высечку навагодніх ёлак да матэрыяльнай і адміністрацыйнай адказнасці прыцягваюцца дзесяткі чалавек.

Хацелася б яшчэ раз нагадаць, што за самавольную высечку навагодніх ёлак кампенсацыя ўносіцца ў двайным размеры. І цяпер, у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, за кожную самавольна ссечаную ёлку з дыяметрам пня да 12 сантыметраў спаганяецца ўрон у размеры 0,8 мінімальнай зарплаты (на сённяшні дзень гэта 16 тысяч рублёў). Акрамя таго, у адпаведнасці з рашэннем аблвыканкома вінаватыя ў самавольнай высечцы штрафуюцца ў адміністрацыйным парадку: грамадзяне — да 5 мінімальных зарплат, службовыя асобы — да 10 мінімальных зарплат.

Пры ўстанаўленні незаконнага правозу ёлак, у тым ліку і звыш колькасці, указанай у накладной, вінаватыя будуць прыцягвацца як за раскраданне гатовай прадукцыі. Пры нанясенні лясной гаспадарцы буйнога ўрону вінаватыя могуць прыцягвацца і да крымінальнай адказнасці.

У гэтыя перадслуавагоднія дні Віцебскае вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне звяртаецца да ўсіх кіраўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, школ, усіх грамадзян горада і вобласці: не дапускайце самавольных нарыхтовак ёлак, аказвайце дапамогу работнікам лясной гаспадаркі, супрацоўнікам міліцыі ў арганізацыі аховы хваёвых насаджэнняў!

**В.КІРПІЧОНАК,**
начальнік аддзела аховы і абароны лесу Віцебскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання.

# «БЕЛКА» ДЛЯ ПАЛЯЎНІЧЫХ

У Оршы пачала дзейнічаць вытворча-камерцыйная фірма "Белка". Тут вопытныя майстры займаюцца рамонтам паляўнічых, спартыўных ружжаў, выпрабляюць і рэалізуюць розныя прылады для паляўнічых і рыбаловаў. Прадукцыя карыстаецца попытам. Прычым паслугамі фірмы карыстаюцца не толькі мясцовыя паляўнічыя і рыбаловы, але і з суседніх раёнаў.

**І.КОГАН.**

◆ АБ ЧЫМ ПІШУЦЬ ГАЗЕТЫ

## СТАЛІ АКЦЫЯНЕРАМІ

Акцыянерным таварыствам стаў цяпер ужо былы калгас імя Чапаева Лёзненскага раёна. Днямі, як паведамляе газета Лёзненскага раённага Савета народных дэпутатаў "Сцяг перамогі", тут адбыўся агульны сход калгаснікаў, дзе і было прынята адпаведнае рашэнне. Толькі шэсць чалавек галасавалі супраць, а дзевяць — устрымаліся.

## НА МЯЖЫ РАЗАРЭННЯ

На жаль, мінулі часы, калі служба бытавога абслугоўвання квітнела, аказваючы насельніцтву шэраг недарагіх паслуг, даступных літаральна кожнаму. Цяпер жа гэта галіна ў поўным заняпадзе. Чаму так здарылася? Аб гэтым у публікацыі "На мяжы разарэння" разважае дырэктар Бешанковіцкага раённага камбіната бытавога абслугоўвання С.М.Варошка. Інтэрв'ю змешчана ў раённай газеце "Зара".

Інтэрв'ю даволі вялікае па аб'ёму. Але галоўная думка яго такая: становішча з бытоўкай у раёне даволі крытычнае і, калі не будуць прыняты тэрміновыя меры, не будзе аказана дапамога, — крах непазбежны. Большасць комплексных прыёмных пунктаў не працуе.

Дарэчы, такая хвароба характэрна не толькі для Бешанковіцкага раёна. Гэты разбуральны працэс набірае сілу ў вобласці і рэспубліцы. Аднак, як лічыць Сяргей Максімавіч, толькі ў Бешанковіцкім раёне такая мізэрная дапамога аказваецца бытоўцы. Нядаўна ён прыехаў з рэспубліканскага семінара, які праходзіў у Магілёве. Дык там бытоўка атрымала датацыю з абласнога бюджэту 80 мільёнаў рублёў. Падсілкоўвае раённыя камбінаты бытавога абслугоўвання і раённы бюджэт. КБА вызвалены ад платы некаторых відаў падатку, а комплексныя прыёмныя пункты ўтрымліваюць самі гаспадаркі.

## НАВУЧАЛЬНЫ ГОД НА ЗАВОДЗЕ

Пасля непрацяглых канікулаў зноў пачаўся навучальны год на Віцебскім тэлезаводзе. Нараджэнне рыначных адносін прад'яўляе да прафесійнай падрыхтоўкі рабочых і спецыялістаў больш жорсткія патрабаванні. Ды і тэхнічны [illegible] выпускаемых прадпрыемствам вырабаў стаў значна вышэйшым. А значыць, яшчэ больш высокім патрабаванням павінны адпавядаць і веды іх вытворцаў.

Сёння ў бюро падрыхтоўкі кадраў праходзяць заняткі радыёмеханікаў тэхцэнтраў "Віцязь" з розных гарадоў былога СССР. Працягваюцца заняткі па атрыманню навыкаў работы з персанальнымі ЭВМ, а таксама па вывучэнню англійскай мовы.

Больш за 250 чалавек за зіму праслухаюць вытворча-эканамічныя курсы з мэтай павышэння разраду.

Аб гэтым паведамляе шматтыражная газета "Рабочее слово" — газета віцебскага вытворчага аб'яднання "Віцязь".

Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі
Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА

210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17

прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 165.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.

РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА .



Правление облпотребсоюза выражает глубокое соболезнование инструктору управления кадров и кооперативной работы облпотребсоюза Богданович Марии Александровне в связи со смертью отца.

Коллектив ТМО № 3 Первомайского района г. Витебска глубоко скорбит в связи со смертью медсестры детской поликлиники № 2 ОРЛОВОЙ Лидии Петровны и выражает соболезнование родным и близким умершей.

Коллектив ТМО № 3 Первомайского района г. Витебска выражает глубокое соболезнование начальнику планово-экономического отдела Ивановой Лилии Николаевне в связи со смертью матери.